# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ.

## 1927.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 4.

Друк. Крэйнэс і Кавальскі, Вільня, Вялікая 39.

ГОД ВЫДАНЬНЯ II. Przesyłka poctowa opłacona ryczałtem. ЦАНА 30 ГРОШ.

ДВОХТЫДНЁВІК

# Маланка

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4**
„МАЛАНКА".

№ 10
**30 СЬНЕЖНЯ**
**1927 г.**

ПАДПІСНАЯ ЦАНА.
на 1 год. 8 злот.
„ паугода 4 „
„ трымес. 2 „
адзін м 1 „

За граніцу: на год — 2 даляры, на паугода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.

## Ну, ляці, кабылка, хоц ты падарвіся!..




**Быўшы пасол Ярэміч:** Хоць я лічуся і сялянскі пасол, але напляваць мне на сялян. Я, бяз іх ласкі ў Сойм прайду,—мяне туды украінская, жыдоўская і нямецкая буржуазія ўцягне. Ойча Адам пасьвеньціць, „благочестівый" Вячаслаў багаславіць, а мой верны і паслушны Рагуля з-заду падапхнець і... я.. там!...




# Пажаданьні на Новы 1928 Год.

**„МАЛАНЦЫ“.**

Ад душы я ёй хачу
Больш прывабіць чытачоў,
Для чаго ёй глыбей трошкі
Трэба ўлезьці ў гушчы вёскі...
Каб газэтчык ня цураўся,
Супрацоўнік каб стараўся,
Каб падняцца ёй на ногі
Бяз ніякай дапамогі.

*Крапіва.*

## Беларускаму выбаршчыку.

Чутка нос трымаць на ветры,
Лезьці ў гушчы, лезьці ў нетры,
Каб ня даць ў патрэбе маху, —
Ашуканцаў знаць па паху!
І пасьля мятлой сьмярдзючай
Гнаць іх прэч усёю кучай,
Каб іх духу ня было,
Сьлед іх ліхам замяло!..

*Я. Маланка.*



### Ня тутэйшы.

Праз кірмашны пляц праходзе пьяны і, убачыўшы незнаёмага, пытаецца:

— Ска-ааа-жэце, якая цяпер пара, ці на небе сьвеціць сонца, ці месяц?

— Ня ведаю, браце, я — ня тутэйшы.

*В. Х.*

### З добрага роду.

Дзеці забаўляюцца на вуліцы. Да іх далучаецца яшчэ адзін іх сябра, але яны ня хочуць прыняць яго да кумпаніі і голасна абзываюць:

— Вон ад нас. Ты навет бацькі ня маеш і ня меў!

Пачула гэта яго матка і сканфужаная крычыць:

— Ах, вы галавачы праклятыя! Можа ён адзін меў болей бацькоў, як вы ўсе разам!

*В. Х.*

### Не падабалася.

Панскае дзіця да маткі:

— Мамусю, я не пайду больш да школы.

— Чаму, мой анеле?

— Мамуся мне казала, што я буду хадзіць да першай клясы, а там простыя зэдлікі, як у трэцяй клясе для мужыкоў.

*К. С.*

### Уратаваўся

— Знаеш, майго сына засудзілі на сьмерць...

— Ну і што?

— Нічога. Ен уратаваўся, бо перад гэтым памёр у вастрсзе.

### На пошце.

Польская настаўніца пытаецца праз ваконца:

— Ці няма для мяне ліста?

— А як паненкі прозьвішча?

— „*Posta-Restante*“*) — адказала яна.

*) Ліст да запатрабаваньня.

Вось як „Маланка“ працуе,—гультаёў лупцуе!




**„Маланка“** Што? Вы зноў на вёску па сялянскія галасы!? А мая дубіна на што!

# Народны гумар.

## Кум не сабака.

Прыехаў кум да кумы. Тая пачала яго частаваць, але ў хаце ня было чаго есьці. Яна загатавала гарачай вады і пачала ў ёй варыць яйко. Калі яйко было гатова, падала яго куму на талерцы. Калі ўбачылі гэта дзеці, пачалі пішчэць, вядома-ж галодныя:

— Мамка, мамачка, есьці!...

— Ціха, дзеткі, — успакойвае матка, кум-жа не сабака: усяго ня зьесьць і вам застанецца.

*Ш. В.*

## Сярод асаднікаў.

— Ці пан быў у Францыі?

— *Не, вэ Францыі не былэм, але францы у мне былі..,*

*К. С.*

## Спагадлівы бацька.

У часе сусьветнай вайны Рыгор тры гады быў на фроньце і ні разу ня быў адпушчаны да дому на пабыўку.

Раптам прыходзе тэлеграма: „Прыяжджай дамоў, жонка - брата радзіла“.

Доўга ламаў галаву Рыгор і нарэшце дагадаўся, што гэта яго бацька ўслужліва выконываў Рыгоравы абавязкі з яго жонкай..

Вось дык бацька!

Але і жонка ня лепшая.

*Янка А.*

## У судзе.

Судзьдзя пытаецца ў сьведкі—былога салдата, ці чуў ён, як абвінавачаны лаяў пана.

—А як-жа, пане судзьдзя, чуў,-- адказвае той.

— Дык раскажы, як ты чуў.

— Калі стыдаюся, пане судзьдзя.

— Нічога, кажы, бо гэта абавязкава патрэбна для справы.

— Калі так, дык слухайце, пане судзьдзя. Ен лаяўся: „ты дурань“, пане судзьдзя, „ты—быдла рагатае“, пане судзьдзя, „ты—с... сын“, пане судзьдзя, „ты —ашуканец“, пане судзьдзя, ты...

*Судзьдзя*: До, до, до! Хопіць, больш ня трэба!..

*К. С.*

## Добрая рада.

— Калі хочаш жаніцца, дык дам табе добрую раду.

— Якую.

— Зусім не жаніся.

*В. Х.*

Пасьвячаецца некатому з беларускіх дзеячаў. А каму, хай тыя самі дагадаюцца.

*„Маланка“*

## ГАНАРЫСТЫ ПАРСЮК.

Заўсёды праўда вочы коле...
Раз гнаў пастух сьвіней у поле.
Адзін вялізарны парсюк,
Які абегаў вёску ўсю,
За раніцу абшарыў завугольле,
Цяпер такі меў выгляд важны,
Як быццам старшыня якога
трэсту,
Нібы ён не жадзён і цесту;
А носа ў парсюка дык не дастанеш сажнем,—
Вышэй за ўсіх ён сам сябе лічыў,
А што ў самога на лычы,
Ня бачыў гэтага аднак.
І вось адзін тут падсьвінак,
Які быў вылучэнцам з мас,
І кажа: „Дзядзечка, твой лыч
у брудзе!
Нядобра гэта й паміж нас,
А што-ж, калі заўважаць людзі?“
Парсюк наставіў хіб, парсюк
разьюшан:
„Цераз цябе я чырванець прымушан!
Такое мне сказаць асьмеляцца
нямногія,—
Ды гэта-ж—дэмагогія!“
Парсюк наш лаецца, недараваць
клянецца:
„І месца мокрага, крычыць, не
застанецца!
Вось я табе, паршыўца, тузану!“
І так ён падсьвінака грызянуў,
Што той за сажняў пяць адскочыў.
Вось і кажы ты праўду ў вочы,—
Пачуць яе ня надта хто ахвочы.

*Крапіва.*

## У „утраквістычнай“ *(двохязычный) школе.*

*Настаўнік з „Галілеі“*: Як бэндзе пабеларуску: когут сьпева ку-ку-рэку?

*Вучань*: Тугут пяе кукарэку.

*Настаўнік*: Не, дурню, Тугут, гэта—пасол, але як па-вашаму зваць *когута*, ну, як яго зваць, курыцынага мужа?

*К. С.*

## Палахлівы.

— Ці ты быў на апошнім зьезьдзе "Сель-Союзу" у Вільні?

— Быў. А што?

— Што добрага чуў.

— Ды дзе там там ліха добрае пачуеш! Як пачуў што паслоў ды лідэраў па тварах пляскаць пачалі, дык уцёк, каб самому не давялося.

## Як пачулі бяду, запяялі каляду...




**Селянін да каляднікоў:** Вон ад нашых вокнаў! Бач завылі, як ваўкі, хто ў свой голас... Ідзеце да паноў са сваімі панскімі песьнямі,—нас сялян не абдурыце!

### Добрая дачка.

— Мама, паднясі за мной кніжкі ў школу. Хай людзі думаюць, што мы трымаем служанку.

### Ашчадны.

— Я гэтак ашчаджаў казённыя грошы, як свае ўласныя.

— Чаму-ж ты іх прагуляў?

— Дык я і свае ўласныя таксама прагуляў.

### Ен—не чалавек.

У часе калядных сьвятаў на балю ў клюбе адна пані, памыліўшыся, падумала на пана, які стаяў пры дзьвярох, што гэта лёкай, сказала:

— Чалавек, дайце мне шклянку вады з лёдам!

А пан ёй адказвае:

— Выбачайце, я—не чалавек!

*К. С.*

### Высокая плата.
**(Аутэнтычна)**

На беларускім аматорскім спэктаклі ў Вільні:

— За вешалку, грамадзяне, паўзалатоўкі належыцца.

— Паўзалатоўкі?! Ды маё пальто і паловы гэтага ня варта!

*Я. М.*

### Недагадлівы.

— Мы раз з жонкай пасварыліся і на гэту памятку пасадзілі яблыню.

— Вось дурны! Чаму я да гэтага не дадумаўся: да гэтай пары меў-бы вялікі сад.

### Вялікі пасьпех.

— У нашым транспарце мы дайшлі да передваеннай нормы.

— А ў якім вы транспарце працуеце?

— Служу ізвазцом у хаўтурным бюро...

### Па праву.

— Ідзі, таварыш, пагуляй трохі - гэта-ж сёньня сьвята!

— Не, братка, я закон абмінаць ня буду. У сьвята піць і гуляць не дазволена. У рабочы дзень загуляем!

*(З радавага гумару).*

**В. Шышкаў.**

## У весцы Канцавой

*(Апавяданьне з радавага жыцьця)*

Загадана было ў нашай вёсцы Канцавой жанаддзел *) залажыць. Ну, ведама, залажылі. Загадчыца Тэкля Пахомава—чорная, бы тая цыганка. І страх, якая злосная—перцам не кармі. Гэтак узварушыла баб проці мужыкоў, што лепш і ня трэба: на-сьмерць сталі бабы мужыкоў заядаць:

— Ах вы, пьяніцы!

— Ах вы, праклятыя!

— Ды мы вас, ды вы нас...

Калі, навет, скажам, захочаш учыніць над сваёй уласнай жонкай што-небудзь такое-сякое, ды вось гэта самае, дык яна адразу табе:

— Пашоў, кажа, к чорту, думаеш, кажа, лёгка нам цяжарнымі хадзіць...

А ледзь улагоджываць яе пачнеш, дык яна наровіць табе чапялой па носе зьезьдзіць, ды з плачам у жанаддзел:

— Гвалт, гвалт, забіў!

А якое там, да чорта, забіў, калі сам стаіш ля карыта, ды нос вадой замываеш, а з носу, зразумела, непавінная кроў...

Некаторых, навет, мужыкоў гэтая Тэкля Пахомава, каб ёй ў лужыне ўтапіцца, у суд пацягнула, значыцца жонак калечаць. І што-ж

Ці-ж нашы суды—суды?

Жонкі прышлі на суд чырвонатварыя, як буракі, а ў мужоў пад вачамі ліхтары панаторківаны, навет адзін і кульгае. І, ня гледзячы на падобныя прыкметы, мужоў прысудзілі к штрафу і адседцы. Адзін прыйшоў дамоў—твару няма, аж зубамі скрыгоча, а бабу пашамаціць нельга—забаронена. Вось яно што.. Ен ад вялікай злосьці ўласную сабаку задавіў, згроб за каршэнь, ды адразу ў пятлю:

— Вось табе, кажа, такая-сякая, вось! Павісі, кажа, замест маёй ведзьмы Марысі. Во-ох!!—і заплакаў. Сядзіць у хлеве на гнаі, смаркаецца на ўсе бакі і плача.

Мужчыны вельмі спакойныя ў нас, а бабы—бой.

* * *

Гэты страшны тэрор панаваў да восені. Тэклю Пахомаву вызвалі ў места служыць, — павышэньне, значыцца, далі. Яна—баба граматная, сабралася і паехала. Бабы ажно выплі на яе праводзінах.

Мужыкі сказалі на сходзе:

— Ну, доўгахвостыя, скончылася ваша масьлянка. Каго хочаце за загадчыцу выбіраць? Вызначайце кандыдатуру, чорт вас еш!

Тая ня хоча, гэта не жадае, трэцьця баіцца. Гэтак нікога і ня выбралі. А з воласьці загад—выбраць. Думалі мы, радзіліся, дый надумаліся,—выбярам у загадчыцы мужчыну.

Сельсавет, мельнік наш, сказаў:

— А што-ж, браткі, вёска наша Канцавая, на самым канцы, далей балота на сто вёрст, да

*) Жаноцкі Аддзел.

## Сьпіць і... аб Вільні сьніць...




Гістарычная легенда кажа: Калі Гэдымін хацеў залажыць Вільню, сьніўся яму жалезны воўк, А калі Валдьэмарс хацеў адабраць Вільню, сьніўся яму... беларускі мужык, які сказаў; „Дудкі, браце, без мяне ніякая табе Ліга Народаў не паможа!“

## Падружылі.

*(Аўтэнтычна).*

— Наш солтыс Васіль Дур—ка (к. Ія) з паноў, бо нічым больш не працуе, толькі языком.

— Гм... дзіўна?

— Нічога дзіўнага. Ен у вялікай дружбе з павятовым старастам, які за „язычок“ яго ўжо другі раз нам на солтыса назначае, хоць сяляне за яго зусім не галасавалі.

— Вось дык падружыліся!

— А як-жа! А каб лепш на сялян даносіў, дык пан староста яго сторажам на мост паставіў.

Дык вось што знача: „не радзіся—багатым, а радзіся—падлізам“!

*Ша—лай.*

## На судзе.

Селянін у спрэчцы з абшарнікам Едкам назваў яго сабакай. Той падаў у суд і паставіў сьведкаў.

На судзе судзьдзя кажа да селяніна:

— Вы абвінавачваецеся ў тым, што сказалі на пана Едку—*пес.*

— На гэта селянін абураны да п. Едкі:

— Сабака ты, сабака, калі-ж я на цябе казаў *пес*?!

*Ю. Ф.*

## Чорт знае што такое!

Маскаль, пабыўшы ў Польшчы, вярнуўся у Маскоўшчыну і апавядае:

— У палякоў дзіўная мова. У іх усё па *пан.* Туфаль у іх—*пан*—тофаль, чулок—*пан*—чоха, а ложак у іх зусім няма: у ложках яны сьпяць, а *кравать* яны на шыю падвязваюць.—

Чорт знае што такое!

*Я. М.*

## Матэрыялісты.

— Мала мне нехапала,— а быўбы ажаніўся!

— Колькі тысячаў...

*„Зиз“*

---

нас мо' ніхто з начальства і не заблудзе. Давайце выбярам Настасея; Імя ў яго на бабскае падобна, а прозьвішча—сам поп не разьбярэць—Патэльня. Баба таксама патэльняй можа быць зусім проста.

Тагды пачаў гаварыць сам Настасей:

— Я-ж нічога, браткі, згаджаюся, як і належыцца. І імя... тож... запраўды, каб... Навет маленькага мяне і звалі Настусём. Толькі, браткі, каб якога ліха ня было... Апрача ўсяго іншага, канешне, але.

— Эгэ! Якое там ліха. Вось штука паперку раз у месяц чыркнуць. Пішы прозьвішча нявыразна, каб і не пазнаць.

— Ды я выразна, дык і не... Але вось... гэта, як яго... каб... Суменьне ў мяне, але. А што, як раптам наляцяць! А чалавек я палахлівы.—Я гэтакі чалавек, скінь, прыкладам, скажам, каля мяне лыжку, я аж падскочу да столі. Чалавек я палахлівы і нэрвовы.

— А ты не скачы... Ты што, блыха, ці што? Згаджайся ды ўсе. А мы табе... Браткі, зьбяром Настасею пудзікаў з пяток мукі за чэсьць пашану. І з гарнец самагонкі першага гатунку. Добра?

І стаў з тае пары Настасей Патэльня загадчыцай жанааддзелу. І стала мужыкам лягчэй, а бабам горш.

* *

А тымчасам... Ну, так, што нават і не падумаеш. Раптам—фюць! —маланкай прыляцеў нейкі заведваючы ці начальнік з места і проста к прэзэсу сельсавета, мельніку Авілу Чацьвераву. Тое ды гэта, пытаньні ды распытваньні, ну, як, напрыклад, справы, чаму няма хаты—чытальні, чаму няма камсамолу, як працуе жанааддзел?

— Зрабеце ласку, ваша чэсьць, гарбаткі папіць,—як фарбай заліўся Авіла.

Жанааддзел у нас спраўны. Загадчыцай таварыш Настасея Скаварада. Вядзе лінію правільна і згодна...

— Ці ня можна з ёй пагаварыць?

— Ніяк няможна. Яна, здаецца, хворая, — пахаладзеў наш Авіла.—Яна, здаецца, дзіця радзіла. Быццым мёртвенькі, царства яму нябеснае.

— Тагды я сам схаджу. Дзе яна?

У Авіла адразу абсеў жывот і тугі паясок паслабеў.

— Што вы, таварыш, пане, як вас... забыўся... Яна далёка жыве на хутары, у лясочку... Людзі, кажуць, што ваўкі там шалёныя бегаюць, ваўчыца і воўк, пара... Барані Божа...

Прыездны прыжмурыўся і хітра паглядзеў з-пад акуляраў на Авілу.

— А ўсё-ж мне трэба з ёй пагаварыць.

— Тагды вось якая справа, таварыш дарагі, як вас... забыўся. Вы пасьля гарбаткі палажэцеся адпачыць. Столькі кілямэтраў праехалі, балота, ды каменьня. А вечарам я яе вам прывяду на сон праведны. Вы-ж заначуеце? А куды-ж вы сьпяшае-

### Прымусовы асортымэнт.



— Што гэта ты, Дзяніс, нагавіцы нейкія дзіўныя купіў?

— У коопэратыве казалі, што нагавіцы вельмі добрыя; раз расшпіліў і да новай зьмены, расшпільваць ня трэба і...

**Любіце чытаць „Маланку“, а ці прыслалі падпісную плату?**

### Начыста



— Ты чаму голы? Звар'яцеў, ці што?

— У лазьні быў. А там нейкі аматар чыстасьці ўсю вопратку ў мяне змыў.

### Век жыві—век пасьведчвайся.



— Прашу міласьці прыняць мяне ў прытулак. Сто гадоў ужо мінула.

— Сто гадоў! Сказаць усё можна! Прывядзі бацьку і маці: хай яны пасьведчаць.

*(З радавага гумару).*

### Цікавая спрэчка.

Манах і ігумен вядуць спрэчку:

— Ойча, ці Бог усемагутны?

— Усемагутны.

— А чым ён пакрые казырнага туза?

— Ды ён з табой дурнем і гуляць нястане. *Ш.*

### Паважная прычына.

Пані Д. прыходзе ў суд і жадае разводу з сваім мужам.

*Судзьдзя*: А гэта з якой прычыны?

*Пані Д.* Бо я маю паважныя прычыны падазраваць, што нашы апошнія дзеці не зьяўляюцца яго.

### У доктара.

— Пане доктар, што мне рабіць? жонцы што раз усё горай і горай робіцца?

— А як жонцы пьяўкі памаглі?

— Ня зусім! Тры пьяўкі ледзь-ледзь зьела, а больш ніяк зьесьці ня можа. *К. С.*

цеся? Ага ў Паўлаўскае? Вельмі гэта нам прыемна. Паўлаўскае вёска—нішто сабе. Народ—чысты. Ох, якая вёска вясёлая... — павесялеў наш пузаты Авіла.

— Хай будзе па-вашаму,—сказаў госьць.—Толькі нікога да мяне ня пускайце: працаваць трэба.

— Будзьце зусім спакойныя!—крыкнуў Авіла. — Гэта ніводнае стварэньне не пасьмее непакоіць вашу міласьць.

* * *

— Ратуйце,—сказаў Авіла сваёй жонцы, а сам марш па вёсцы. Аблётаў усе хаты, але ніводная баба не згаджаецца хоць на паўгадзіны загадчыцай пабыць... Ах, бадай цябе паралюш! Вось дык штука...

Авіла да Настасея Скаварады, і адразу зароў:

— Каб ты зсох, дурань паршывы! Прападзём мы ўсе. Дэлегат прыехаў. Цябе кліча. Ах, ах... Узяўся, чорт барадаты, за бабскую службу, дык цяпер ідзі!

— Ой, уцяку я... У лес паеду,—загаласіў Настасей.

— Уцяку!... Дурань! Ен кніжкі патрэбуе. Ен баб скліча. Горш будзе.

Настасей шлёпнуўся на лаўку і, як дурны, вылупіў вочы.

— Стрыжы сваю рыжую бараду хутчэй, чорт цябе еш! — крыкнуў мельнік. — Брытву маеш? Я ўжо пісара пазаву, ён абголіць.

Праз гадзіну Настасей абярнуўся ў Настулю.

— Намітку маю на галаву надзень!—злавалася баба. А наверх хусткай накрыйся, — і няведала баба, сьмяяцца, ці плакаць—баба рагатала.

— Добра. Усе форменна, — пацяшаўся мельнік.—Дэлегат здаецца падсьлепаваты. А голас у цябе, дзякуй Богу, бабскі... Будзе добра. Вось, шкада, дэлегат самагонкі ня ўжывае. Слухай, цётка Дарота!... Напхай яму кудзелі вось у гэта месца... Так, так, але, але... Падлажы больш! Менш! Так у прапорцыю... Вось мужыка, і абабілі зусім, ха-ха... Ідзем! Навет замуж у гэтым андараку можаш выхадзіць за якога дзяка.

Ідзем хутчэй. Глядзі не папсуй справу. Твар весялей трымай, з усьмешкай!

Загадчыца Наста па запісной кніжцы давала вызсьненьні прыезднаму госьцю. Заікалася. Голас дрыжэў, віляў, рукі дрыжэлі—і сьмех, і грэх дый толькі!

— Ды вы, таварышка, ня бойцеся. Кажэце спакойна; у вас, здаецца, усё ў парадку,—казаў дэлегат і міргаў вачыма.

— Але, ў парадку, ваша міласьць, як вас...—цешыўся мельнік.—Баба яна добрая, шустрая. Лінію вядзе правільна і згодна.

—Кажуць, у вас нешчасьлівыя радзіны былі?

— Ой, не...—адказала Наста і хустку нацягнула на вочы. — У нас... як яга... усе раджаюць, разумеецца, правільна, шчасьліва, але...

— Але-ж не. Я кажу ў вас асабіста,—паправіў госьць.

— Гэта, даруйце, я памыліўся,—высунуў наш мельнік бараду. — Гэта была зусім другая жанчына Тая, дык запраўды, чорт яе ведае, узяла і... таго..

## Сучасны Гамлет.




**Эсэр М.**—Быць, ці ня быць у Сойме? — вось пытаньне, якое мучыць мяне і ў дзень і ў ноч.

## Нашы абвесткі.

**Вучань** утраквістычнае пачатковае школы хоча быць прафэсарам на адным з унівэрсытэтаў. Прапазыкі толькі сур'ёзныя і неананімныя слаць: Вільня Poste-Restante для М. Г.

**Пасаду сэкрэтара для асобных даручэньняў** можа атрымаць неадкладна хлопец гадоў 19, умеючы добра страляць з рэвальверу. (Уласны рэвальвер мець не абавязкава). Зьвяртацца ў рэдакцыю „Беларускае Слова" ў ва ўсе поры дня і ночы.

**Макулатура** са старых газэт, якіх ніхто ня хоча чытаць, у ліку 45 пудоў танна прадаецца ў рэдакцыі „Беларускі Дзень". Спытацца ў экспэдытара.

**Камплект беларуск. граматыкаў** Лёсіка, Тарашкевіча, Астроўскага і інш. прадаецца. Для рэдакцыі часопісі „Народ" вялікая сьлідка.

**Валерыянавыя каплі** ў давольным ліку можна дастаць ў-ва ўсіх віленскіх аптэках. Для сяброў рэдакцыі „Сялянская Ніва" першая проба дарма.

**Хірамант Аваднеўскі** прадсказвае кожнаму слаўную напалеонаўскую прышласьць. Патрэбныя інфармацыі можна атрымаць у „доктара" Паўлюкевіча.

**Хачу быць паслом,** а дзеля таго шукаю сяброў у сваю партыю. Зацікаўленых прашу зварочвацца ў рэдакцыю часоп. „Покліч".

**Дзеля пашырэньня палітычна-гандлёвага інтэрэсу** патрэбны сябры ў „Беларускую Радыкальную Партыю" (якіх пакуль што налічваецца сем асобаў, разам з п. Умястоўскім). Новапрынятым дакляруюцца: зямля бяз выкупу, крэдыты, дыэты і фіга з маслам.

**1000 злотых** дам кожнаму, хто мне давядзе, што Ярэмічаў „Інстытут Гаспадаркі і Культуры" займаецца гаспадаркай, а не палітыкай.

Адрэс мой у рэдакцыі „Маланкі".

**Пасольскі мандат** танна прадаецца (або абменьваецца на гарэлку) дзеля адсутнасьці надзеі папасьць другі раз у Сойм.

Адрэс: Варшава. Сойм, б. Беларускі Пасольскі Клюб.

---

А госьць — ну проста, як на грэх, адчыніў на вуліцу вакно і крыкнуў:

— Гэй цёткі! Хадзеце ў дзьвох у хату на пару слоў.

Насьце, здалось, што спадніца сама сабой палезла ўніз і быццам з-пад хусткі вытыркнулася барада. У хату ўвайшлі дзьве цёткі, крыху выпіўшыя—пасьля пазьні смаканулі.

— Ну, як цёткі? — спытаўся госьць і блісьнуў акулярамі. — Загадчыцай жэнаддзела здаволены?

Наста піснула ад страху і схапілася за канец стала. Мельнік бокам—бокам да цётак.

— Ратуйце, маладзіцы,—шапнуў ім і навет грубейшую паціху па задзе папляскаў.

— Загадчыца наша о-ей, якая добрая,—переміргнуліся цёткі—вусатая, барадатая, жанатая... Ха-ха-ха... А, бадай яго... Камэдыя!...

Пабялела Наста, рукамі плясьнула, захісталася.

Мельнік крыкнуў:

— Пашлі вон!... Пьяныя вашыя морды... Яны—дуракаватыя, таварыш дарагі, з бзікам у галаве... Вон!!.

— Ах ты, пузач! — закрычалі цёткі раптам.—Напляваць, што ты прэзэс Савету! А нашто ты лішніх дзьве капейкі за мяленьне мукі бярэш? Гэта парадкі? Цьфу! Слухай, таварыш з места, мы табе ўсю праўду скажам... Ен нячысьцік з чортам знаецца.., Вось ён які прэзэс... Цьфу! Енпаскуда, нам у жанаддзел мужыка рыжабародага ўсадзіў. Ен... Марыня! Вядзі сюды Настасея Скавараду..

— Як? — зьдзівіўся госьць.— Вось гэта ваша загадчыца.

— Цьфу плюнулі абедзьве цёткі.—Гэта ён, пузач, палюбоўніцу сваю прывёў... У яго іх...

Наста крыкнула, шлёпнулася на падлогу і захрыпела.

— Самлела... Вады!...—забегаў госьць.—Станік, станік расшпіле. Змачэце грудзі.

Цёткі кінуліся да незнаёмай бабы. У момант блюзку далоў і... вось дык дзіва: замест таго-сяго —ха-ха—кудзеля! Цёткі ў рогат, у крык, зразумець ня могуць.

А мельнік на калені перад гасьцём:

— Ваша скародзіе, як вас, забыўся... Бацька родны! Даруйце... Запраўды—мужык гэта... Толькі вельмі брыты... Чорт спакусіў. Гэта са страху ўсё... Ах, Боженька! І што-ж цяпер рабіць?... Уставай, рыжы чорт!.. Бач, разваліўся, быццым здохлы кот... Кланяйся!!.

Госьць—бровы ў гору—выцірау спацеўшыя акуляры і барматаў нешта пад нос, а пасьля стаў няўстрымана рагатаць. Наста, дзякаваць Богу, патрохі ачухвалася.

Праз дзесяць дзён, па загаду з места, былі перавыбары ў валвыканком і жэнаддзел.

Пералажыў *Я. М.*

# Яны палітыкай не займаюцца...

У першы дзень каляд ува ўсіх касьцелах Польшчы быў прачытаны „List pasterski“ ў справе выбараў, які падпісалі 22 біскупаў. (*З газэт*).




**Баба—дэвотка:** Бачыце людзі, ксёндз кажа, што калі хто ня будзе так галасаваць, як у тым лісьце пішыцца, дык хай лепш зажыцьця да пекла рыхтуецца.

## НАША ПОШТА.

**Усіх паважаных падпішчыкаў, супрацоўнікаў, чытачоў і сымпатыкаў „Маланкі“ Рэдакцыя шчыра віншуе з Новым Годам і жадае шчасьця, дабрабыту, памысьнасьці ў працы і сьвядомасьці пры выбарах**

Рэдакцыя і Адміністрацыя часоп. „Маланка“ на гэтым месцы склядае перапрашэньне ўсім сваім падпішчыкам, якія ў працягу доўгіх месяцаў не атрымлівалі „Маланкі“. У працягу гэтага часу наша рэдакцыя адтрымала тысячы лістоў з запытаньнямі і нараканьнямі, чаму „Маланка“ не высылаецца. Адказ на ўсе гэтыя лісты рэдакцыя, на вялікі жаль, ня мела магчымасьці за нястачай фундушаў на ўтрыманьне сэкрэтара і вялікія паштовыя выдаткі.

Усе гэтыя лісты — дарагі скарб для нашай рэдакцыі! Яны найлепш сьведчаць аб вялікім зацікаўленьні беларускіх масаў нашай часопісяй. Гэта напаўняе нас радасьцяй і дадае нам сілаў у нашай цяжкай працы.

Пачынаючы ізноў акуратна выпускаць „Маланку“, зварачваемся з гарачым заклікам да ўсяго Беларускага Грамадзянства падтрымаць адзіную нашу гумарыстычную часопісь.

„Маланка“ выдаецца за цяжка запрацаваны сялянска - работніцкі грош, а дзеля таго ня можа дарма рассылацца, ці раскідацца, як некаторыя беларускія газэты, выдаваныя за панскія грошы.

Дык сабірайце і яднайце падпішчыкаў „Маланкі“.!

Усім тым паважаным нашым падпішчыкам, якія не атрымалі належных ім нумароў у 1927 годзе, адміністрацыя наша прадоўжыць падпіску ў 1928 годзе з тым вылічэньнем, што за два злот. належыцца разам з адтрыманым раней— 6 нумароў; за 4 зл.—12 нумароў і за 8 зл.—24 нумары,

Усім, хто задаўжыўся і ня прышлець падпісной платы, высыланьне „Маланкі“ будзе спынена.

**Рэдакцыя.**

**Юліку Д:**

Вы ў сваім вершы пішаце:
„Я люблю дзяўчынку,
„Буду з ёй жаніцца“...

Сьпяшайцеся хутчэй, бо як яна часам даведаецца, што Вы гэткія няскладныя вершы пішаце, возьме і... раздумае. Жадаем Вам пасьпеху з Вашай дзяўчынкай (ведама-ж ня ў вершах) і просім паклікаць нас на вясельле.

**А. Перапуджанаму:**

У перапуджаным стане ня радзім Вам пісаць вершы. Хацелі-б бачыць Вашы вершы, пісаныя ў стане нармальным і вясёлым.

**Ю. Сергіевічу:**

„Маланка“ выдаецца для працоўный беднаты, якая найбольш бывае галодная, а дзеля таго небясьпечна зьмяшчаць у „Маланцы“ Вашы вершы, у якіх ёсьць такія зваротκі, як:

„... Яна гусака скубала,
„Пасьля распусьціўшы масла
„Яго ў чэрап утаптала,
„Маслам зьверху яшчэ зьліўшы,
„Чэрап ў печ ўсадзіла“...

Аж сьлінькі пацяклі ў мяне. А ў Вас ?



Рэдактар **М. Луцэвіч.**—Выдавец: **Я Маразовіч.** Друк. Крэйнэс і Кавальскі. Вялікая вул. 39.

50к

**Прыймаецца падпіска на найлепшую гумарыстычную часопісь**

# „МАЛАНКА“

══ Выходзіць два разы ў месяц. ══

У „МАЛАНЦЫ“ супрацоўнічаюць найлепшыя літэратурныя і мастацкія сілы Заходняй Беларусі.

У „МАЛАНЦЫ“ зьмяшчаюцца найцікавейшыя, найсьмяшнейшыя жарты, карыкатуры, вершы, сатыры.

„МАЛАНКА“ друкуецца на добрай паперы з вялікай колькасьцяй рысункаў.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

На год—8 зл., на паўгода—4 зл., на тры месяцы—2 зл.

За граніцу на год—2 даляры і на паўгода—1 даляр.

Рэдакцыя „МАЛАНКА“, ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул. № 4.

ЦАНА КАМПЛЕКТУ — 2 зл. 70 гр. (з паштов. перасылкай) — ТРЫ ЗЛОТЫХ.